

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 П. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 18 (97) — Нядзеля 4 травена 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# «Свабода праломіць граніцы»

### ТРЭЙЦІ КАНГРЭС ВОЛЬНЫХ ЖУРНАЛІСТЫХ НА ЧУЖЫНЕ

Гэткімі словамі адкрыў бурмістр заходняга Бэрліна праф. Ройтэр трэйці гадавы Кангрэс Міжнароднай Фэдэрацыі Вольных Журналістых Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, Балтыцкіх і Балканскіх Краінаў, які адбываўся ў Бэрліне 25-27 красавіка сёлета.

Міжнародная Фэдэрацыя Вольных Журналістых Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, Балтыцкіх і Балканскіх Краінаў была заснаваная на першым сваім кангрэсе ў Парыжы 27-28 лістапада 1948 году. Да ейных сяброў-закладчыкаў, побач з журналістымі Альбаніі, Баўгарыі, Чэхаў, Славаччыны, Эстоніі, Мадзярччыны, Латвіі, Летувы, Польшчы, Румыніі, Украіны, Югаславіі (сэрбаў, харватаў і славенцаў), належылі таксама й беларусы, якія ў першым урадзе Фэдэрацыі, выбраным на гэтым кангрэсе, атрымалі становішча віцэ-старшыні (інж. Л. Рыдлеўскі). Такім чынам да Фэдэрацыі належаць нацыянальныя журналістычныя арганізацыі ўсіх краінаў-сатэлітаў, а спасярод народаў Савецкага Саюзу толькі беларусы, украінцы, эстонцы, латышы й летувісы. Расейцы да апошняга часу не зьяўляюцца сябрамі Фэдэрацыі.

Фэдэрацыя задзіночвае каля 1.300 журналістых успомненых нацыянальнасьцяў, якія выдаюць у сваіх родных мовах на эміграцыі звыш 150 штодзенных газэтаў і часапісаў. Фэдэрацыя адыгрывае вялізарную ролю ў галіне прапаганды на Захадзе вызвольных ідэяў паняволеных народаў, а таксама ў самым працэсе змаганьня за гэтыя ідэі сярод эмігрантаў з Усходу. Яна зьяўляецца на сяньняшні дзень адзінай міжнацыянальнай арганізацыяй паняволеных народаў, якая 2 ліпеня 1951 году была афіцыяльна вызнаная ворганам Задзіночаных Нацыяў — «UNESCO» на падставе кансультатыўнага статусу за неафіцыяльны ворган для дарадчага супрацоўніцтва з Задзіночанымі Нацыямі. Такім чынам Фэдэрацыя Вольных Журналістых наладзіла ўжо сталае супрацоўніцтва з «UNESCO», Задзіночанымі Нацыямі, а таксама з Эўрапэйскім Рухам, пайменна зь ягонай сэкцыяй для Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

Ня гледзячы на тое, што сталай сялібай Фэдэрацыі зьяўляецца Лёндан, а найбольшая колькасьць ейных сяброў пражывае ў Лёндане й Парыжы, на месца апошняга Кангрэсу быў выбраны Бэрлін — гэты маленькі астравок свабоды, што знаходзіцца за зялезнай заслонай. Гэта было зроблена дзеля мэтаў палітычнага характару, каб заакцэнтаваць, што свабода разбурыць усе граніцы, і каб з за зялезнай заслоны прамовіць да паняволеных народаў, што за гэтай зялезнай заслонай знаходзяцца.

На Кангрэс зьявілася каля 120 прадстаўнікоў журналістыкі чатырнаццаці паняволеных народаў. Найбольш прыбыло дэлегатаў зь Лёндану й Парыжа, так што й афіцыяльнай моваЙ Кангрэсу была мова ангельская й француская. Далей былі прадстаўнікі з ЗША, Нямеччыны, Швэцыі, Італіі, Гішпаніі, Бэльгіі, Турэччыны, Аўстрыі й Швайцарыі. Беларускіх журналістых рэпрэзэнтаваў на Кангрэсе др. Ст. Станкевіч — віцэ-старшыня Саюзу Беларускіх Журналістых і старшыня сэкцыяў Саюзу ў Эўропе.

Апошні Кангрэс выклікаў вялікае зацікаўленьне ўсяго вольнага сьвету. Доказам гэтага можа служыць прысутнасьць на ім выдатных афіцыяльных і неафіцыяльных асобаў Захаду. Гэтак, апрача бурмістра заходняга Бэрліна праф. Ройтэра, на Кангрэс зьявіліся й у сваіх прамовах выказалі салідарнасьць з журналістымі ў іхным змаганьні за вызваленьне собскіх краінаў кангрэсмэн Р. Мадэн — старшыня кангрэсовай Катынскай Камісыі, дэпутат ангельскай ніжняй палаты палкоўнік Додс-Паркер, амэрыканскі адмірал Г. В. Мілер — прэзыдэнт Нацыянальнага Камітэту Вольнай Эўропы, І. Браўн — эўрапэйскі прадстаўнік Амэрыканскай Фэдэрацыі Працы, Р. Новак — віцэпрэзыдэнт амэрыканскага прэсавага задзіночаньня, М. Магэрыдж — галоўны рэдактар лёнданскай газэты «Дэйлі Тэлеграф», Р. Арон — галоўны рэдактар парыскай газэты «Фігаро», прадстаўнікі радыя «Вольная Эўропа», «Голасу Амэрыкі», амэрыканская радыя ў нямецкай мове для Ўсходняй Нямеччыны «RIAS», «Радыя Італьяна» й мноства прадстаўнікоў нямецкіх і замежных агенцтваў і паасобных газэтаў. Сусьветная прэса й радыё, асабліва-ж прэса бэрлінская, прысьвяцілі Кангрэсу спэцыяльныя артыкулы й радыёвыя паведамленьні.

Кангрэс распачаўся пад гукі бэрлінскага звону свабоды. Праца Кангрэсу адбывалася днём і ноччу. Днём праводзіліся адкрытыя канфэрэнцыі, што насілі палітычны й прапагандовы характар, а ноччу — арганізацыйныя, якія датычылі нутраных арганізацыйных справаў Фэдэрацыі.

У свае першай публічнай часьці Кангрэс у радзе рэфэратаў сваіх удзельнікаў шырака задзержыўся над такімі пытаньнямі, як прэса, радыё й людзкая апінія ў паняволеных краінах, Маскоўская Эканамічная Канфэрэнцыя й ейныя замаскаваныя мэты, правы чалавека за зялезнай заслонай, патаптаньне правоў чалавека, як база савецкай эканамічнай сыстэмы, радыяперадачы «Голасу Амэрыкі» й радыя «Свабодная Эўропа» для народаў за зялезнай заслонай і інш. Усе гэтыя праблемы былі дастаткова высьветленыя на канкрэтных фактах і пададзеныя цераз прэсу й радыё да ведама публічнай апініі вольнага сьвету.

Перад сваім заканчэньнем Кангрэс прыняў рад рэзалюцыяў, як рэзалюцыя супраць нявольніцтва прэсы й інфармацыі за зялезнай заслонай, апэль да прэзыдэнта Трумана й амэрыканскага кангрэсу ў справе помачы людзям з за зялезнай заслоны, што ўцякаюць на Захад, і зварот да вольных народаў Захаду, каб яны сьцерагліся вольнасьць сваёй прэсы й не паддаваліся бальшавіцкім правакацыям.

Напасьледак цераз бэрлінскае радыё «RIAS», радыё «Вольная Эўропа» й «Голас Амэрыкі» былі перададзеныя кажнай дэлегацыяй у ейнай нацыянальнай мове звароты: да суродзічаў на паняволеных бацькаўшчынах. Тэкст зваротаў быў апрацаваны камісыяй Кангрэсу й для кажнай дэлегацыі той самы з тым, што паасобныя дэлегацыі яго спэцыяльна заадрасоўвалі да сваіх народаў. Зварот да беларускага народу, перададзены нашай дэлегацыяй, быў наступнага зьместу:

**«Беларускі Народзе!**

**Ад імені беларускіх журналістых, што знаходзяцца сяньня ў заходнім вольным сьвеце, зьвяртаюся да цябе, Беларускі Народзе, з гарачым заклікам ператрываць годы жахлівае бальшавіцкае няволі й умацаваць сваю веру ў тваё хуткае вызваленьне!**

**Задзіночаныя ў супольным змаганьні супраць камунізму й савецкага паняволеньня, мы пасылаем вам, нашыя суродзічы, што жывіцё за зялезнай заслонай, гэтыя словы салідарнасьці й веры ў нашае хуткае вызваленьне.**

**Мы зьяўляемся журналістымі з краінаў, апанаваных бальшавізмам, што знаходзяцца на чужыне. Мы сабраліся ў заходнім Бэрліне, каб з найбліжэйшай адлегласьці паінфармаваць вас, што мы актыўна дзеім для вызваленьня нашых краінаў.**

**Мы зьяўляемся групаю звыш тысячы журналістых, якія выбралі выгнаньне, чымсьці на бацькаўшчыне служыць для камунізму, пішучы ў бальшавіцкіх газэтах.**

**Мы на Захадзе выдаём звыш 150 штодзенных газэтаў і пэрыядычных часапісаў у нашых мовах, у тым ліку й у мове беларускай, разьвіваючы на чужыне справу вольнае прэсы. У нашых радох ёсьць задзіночаныя журналістыя з 12 краінаў, усе яны ахвяры бальшавіцкай агрэсыі. Мы мужчыны й жанчыны належым да розных палітычных угрупаваньняў і розных веравызнаньняў. Нашай супольнай плятформай ёсьць аднаўленьне й адбудаваньне свабоды ў нашых бацькаўшчынах.**

**Тут у Бэрліне, як і ўсюды, мы ўсьцяж напамінаем заходняму сьвету, што свабода зьяўляецца непадзельнай, што нікто ня можа жыць у спакоі, пакуль ня будзе зьнішчаная зялезная заслона; што ніводзін чалавек ня можа цешыцца пачуцьцём асабістае бясьпечнасьці, калі ягоны брат на Ўсходзе жыве ў заўсёдным страху ад раптоўнага стуку ў дзьверы; што ніводзін чалавек ня можа спакойна славіць Бога, ведаючы, што ягоны брат на Ўсходзе зьяўляецца перасьледаваным за рэлігію й што сьвятыні за зялезнай заслонай замененыя ў гаражы й бязбожніцкія клюбы.**

**Мы вам хочам служыць на чужыне. Тут, на чужыне мы хочам выконваць нашыя абавязкі ў дачыненьні да ўзьдзейваньня на народы вольнага сьвету. Гэтымі абавязкамі ёсьць перасьцерагчы вольныя народы сьвету, што ваш лёс чакае й іх, калі яны безадкладна не паўстрымаюць агрэсыі, што ваш лёс чакае й іх. калі вы ня будзеце вызваленыя; што палітыка вызваленьня ёсьць толькі адна, якая можа служыць дзьвюм мэтам: яна павінна задзіночыць вас, беларусы, з свабодным сьветам і ўсьце-**

(Заканчэньне на 2 балоне)

## За згоду рэлігійную

«Многа выйшла трасянін,
Меч, агонь зьнішчалі край,
З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай...»

Гэткімі словамі Якуб Колас характарызуе дрэйнасьць нацыянальна чужога й варожага нам праваслаўнага й каталіцкага духавенства на Беларусі, якое, выходзячы з матываў не рэлігійных, але чыста палітычных, намагалася распаліць рэлігійную варожасьць паміж беларусамі каталіцкага й праваслаўнага веравызнаньняў. Выкарыстоўваючы рэлігійныя пачуцьці беларускага народу ды жыручы на ягонай цемры й нацыянальнай нясьведамасьці, варожае нам праваслаўнае духавенства імкнулася пераканаць масы, што толькі праваслаўе або «руская вера» зьяўляецца адзіна правільнай і «Богу ўгоднай»; такое-ж самае духавенства каталіцкае цьвердзіла тое самае аб «веры польскай». І ў той час, калі сярод народаў вольнага й культурнага Захаду, прыкладам немцаў, наяўнасьць двух веравызнаньняў — каталіцтва й пратэстантызму — ня выклікае ніякіх розьніцаў ані разыходжаньняў у нутраным жыцьці народу, дык у нас, дзякуючы перастаўленьню нацыянальна варожым духавенствам рэлігіі на службу чужацкай палітыкі, натуральны рэлігійны падзел у значнай ступені выклікаў і падзел палітычны, а навет нацыянальны.



Прэзыдэнт БНР на станцыі ў Брукселі, куды нядаўна прыяжджаў, каб адведаць беларускіх студэнтаў у Лювэне

Аднак рэлігійныя нязгоды, прывіваныя чужым духавенствам, пакідалі на беларускім народзе толькі вонкавы, хоць часамі вельмі моцны, асадак, не пранікаючы глыбей у народную самасьведамасьць. Бо раўналежна з працэсам нацыянальнага ўсьведамленьня народных масаў зьнікалі ў іхнай сьвядомасьці й разыходжаньні рэлігійныя, штучна прышчэпленая варожасьць паміж праваслаўнымі й каталікамі ўступала месца нацыянальнай згодзе, якая вытварала пачуцьцё рэлігійнай талеранцыйнасьці й узаемнай пашаны. Такім чынам беларускі народ патрапіў у сваім рэлігійным адчуваньні ўзьняцца шмат вышэй за чужацкае, хоць і асьвечанае, духавенства.

Калі-ж ходзіць пра нацыянальную інтэлігенцыю, дык яна ня толькі адкідала ўсякія рэлігійныя разыходжаньні, але ўсюды, дзе толькі было магчыма, спэцыяльна маніфэставала рэлігійнае адзінства, хаця фармальна на Беларусі існавалі два веравызнаньні. Гэтаксама паступала нацыянальна дасьпелае й палітычна граматнае беларускае духавенства, як праваслаўнае, гэтак і каталіцкае. Калі праваслаўны япіскап Філафей, ведамы із сваіх русыфікатарскіх тэндэнцыяў, у 1944 годзе вітаў гэтак званы Другі Усебеларускі Кангрэс у Менску, дык зьвяртаўся толькі да «беларускага праваслаўнага народу». Пасьля-ж яго забраў голас ведамы беларускі патрыёта ксёндз Татарыновіч, які выразна зазначыў, што хаця ён і каталіцкі сьвятар, але, як беларус, вітае ўсіх беларусаў, як каталікоў, гэтак і

(Заканчэньне на 2 балоне)

# „Па сьмерці Сталіна нічога ня зьменіцца"

### СЭНСАЦЫЙНАЕ ІНТЭРВЬЮ З БЫЛЫМ САВЕЦКІМ МІНІСТРАМ ЛІТВІНАВЫМ

«Ня можна давяраць Крамлю. Сталін не дацэньвае атамнай бомбы й ня сьцерпіць ніякае атамнае кантролі. Крэмль уважае, што вайна між Усходам і Захадам няўхільная». Гэта некаторыя з выказваньняў, якія падаў Максім Літвінаў, былы савецкі міністар замежных справаў, карэспандэнту амэрыканскага радыя «Калюмбія» Рышарду Готлету падчас аднаго інтэрвію. Гэтая размова мела месца 18 чэрвеня 1946 году. Была яна апублікаваная толькі ў сакавіку бягучага году ў замежнай прэсе. Гэтыя выказваньні савецкага міністра выдаваліся амэрыканскаму карэспандэнту кампрамітуючымі для самога Літвінава. Толькі пасьля ягонай сьмерці, 31 сьнежаня 1951 году, дазволіла міністэрства замежных справаў ЗША апублікаваць зьмест гэнага інтэрвію. Наступная справаздача абапіраецца на дадзеных аднаго парыскага штодзённіка.

Готлет быў моцна пераканаы, што Літвінаў ветліва выслухае скіраваныя да яго пытаньні, каб потым за злосным манерам крэмлёўскіх дыктатараў спаслацца на апошні артыкул «Праўды», зь якога заходні карэспандэнт мог-бы зачэрпнуць патрэбныя яму дадзеныя. Аднак Рышард Готлет перажыў у тую гадзіну, калі насупраць яго сядзеў Літвінаў, найбольшае зьдзіўленьне ў сваёй дагэтулешняй журналістычнай дзейнасьці.

### «ВАЙНА ЁСЬЦЬ НЯЎХІЛЬНАЙ»

Карэспандэнт імкнуўся непасрэдна да свае мэты й папрасіў даць ацэну агульнага палітычнага палажэньня.

Тут яшчэ раз трэба падчыркнуць, што гэтае інтэрвію мела месца ў чэрвені 1946 году. З гэтай часовай пэрспэктывы трэба ацэньваць наступныя высьненьні расейскага міністра. Ён пайменна адказаў: «Я ацэньваю агульную палітычную сытуацыю як вельмі дрэнную. Непрыязнасьць паміж Усходам і Захадам зайшла ўжо за далёка, каб магла быць як-небудзь зьліквідаванай. Падчас вайны быў такі час, калі можна было спадзявацца, што абодвы сьвеце могуць спакойна адзін побач з другім існаваць. Аднак гэта аказалася немагчымым.»

Літвінаў прадаўжаў: «Расея вярнулася да сваіх прынцыпаў абсалютнай бясьпечнасьці. Гэтая бясьпечнасьць апіраецца на здабыцьці што рад новых тэрыторыяў. Чым болей маем мы прастору, тым бясьпечней мы сябе адчуваем. У Крамлі зьяўляюцца моцна пераканаными, што раней ці пазьней дойдзе да адкрытага канфлікту паміж камуністычным і капіталістычным сьветам. Навет Задзіночаныя Нацыі, якім у Маскве ня прыдаюць асаблівага значэньня, ня змогуць гэтаму канфлікту запабегчы.»

### «Я МЕЎ ІДЭІ, АЛЕ...»

Але-ж Вы самі, міністар, выступалі аднак заўсёды за разумнае разьвязаньне розных праблемаў між Захадам і Ўсходам. Ці-ж ня можаце Вы тады гэтаму перашкодзіць?» «Я меў некаторыя, магчыма й карысныя ідэі», — адказаў Літвінаў, — «але Крэмль пра гэта мяне ня пытае, таму задзержываю я іх толькі для сябе. Я зьяўляюся цяпер толькі палітычным абсэрватарам. І я рад, што ўсё гэта я ўжо маю за сабой.»

Гэтае вызнаньне Літвінава ў ягоным адказе вывела амэрыканскага карэспандэнта з раўнавагі, што ён навет забыўся паставіць наступнага пытаньня аб кантролі атамнай энэргіі. Але Літвінаў выясьніў, што Расея ні на якую атамную кантролю ня згодзіцца, бо яна ніколі ня зрэзыгнуе з часткі свайго нацыянальнага сувэрэнітэту. Апрача гэтага, Крэмль уважае атамную бомбу толькі як пагрозу з боку Захаду, дзеяньне якой абсалютна там пераацэньваецца. У Расеі ключавая індустрыя так далёка зьдэцэнтралізаваная, якой нельга вывесьці із дзеяньня атамнай бомбай. З другога боку Расея, у выпадку наяўнасьці ў яе атамнай бомбы, не паўстрымаецца адказаць тым самым аружжам.

Готлет падчас гэтай размовы быў ахоплены панічным пачуцьцём. А ну-ж у пакоі, дзе адбывалася размова, ёсьць замаскаваныя мікрафоны для падслухаваньня. Як мог Літвінаў сваімі выказваньнямі наражацца на небясьпеку! Няўжо ён прыгатаўляў наўмысьля сваю згубу й перадаваў мне свой палітычны тэстамант? — Але міністар прадаўжаў:

«Палітыкі ў Крамлі зьяўляюцца на столькі кансэрватыўнымі людзьмі, што яны дзеяць паводля дзесяцілетніх прынцыпаў. Адсюль і гэтае імкненьне да падвойнай і патройнай бясьпечнасьці. Гітлер апэраваў паняцьцем «жыцьцёвага прастору». Сталін тое самае называе «бясьпечнасьцю працоўных Савецкага Саюзу».

Амэрыканец зарызыкаваў найбольш кур'ёзнае пытаньне: "Што станецца, як памрэ Сталін?" — «Нічога ня зьменіцца», — адказаў Літвінаў, — ніякага ня будзе перавароту, ніякай зьмены ў палітыцы. Маладыя людзі, як напрыклад Бэрыя або Маленкаў, думаюць таксама, як і старыя. Імя Сталіна выгаварваецца ў цэлым Савецкім Саюзе толькі із страхам. Прапагандовая машына пастаралася пра тое, каб паўстала вера, што Сталін ня можа проста ўмерці. І нутраны пераварот зьяўляецца таксама немагчымым. Праўда, ёсьць незадаволеныя. Але яны не зарганізаваныя. Цяпер недастаткова, як падчас францускай рэвалюцыі, каб прыпусьціць штурм да некалькіх арсэналаў і раздаць мушкеты. Рэвалюцыйная армія дваццатага стагодзьдзя патрабуе гарматаў, танкаў і самалётаў. А чырвоная армія ніколі ня будзе па старане рэвалюцыі. Таксама ў Нямеччыне й Італіі падчас дыктатуры не магло быць адкрытых рэвалюцыяў».

### НЯМЕЦКАЕ ПЫТАНЬНЕ

Напасьледак парушыў Готлет нямецкую праблему. «Нямецкае пытаньне зьяўляецца найважнейшым, — сказаў на гэта Літвінаў. «З гэтае прычыны яно ня будзе разьвязанае ніколі. Нямеччына астанецца падзеленай на дзьве часьці, бо кажны партнэр жадае задзіночанай Нямеччыны, але пад сваей выключнай кантроляй.»

Калі амэрыканскі карэспандэнт разьвітаўся з савецкім міністрам, авалодала ім пачуцьцё, што ён у кажны мамэнт на вуліцы можа быць арыштаваным. Зьместу гэтае размовы ён не перадаў прэсе, а толькі паведаміў пра гэта тагачаснаму міністру замежных справаў ЗША Бэрнсу.

(„Berliner Anzeiger" за 27. 4. 52)

# Востраў свабоды

*(Уражаньні з заходняга Бэрліна)*

У сувязі з Кангрэсам Міжнароднай Фэдэрацыі Вольных Журналістых, які адбываўся ў Бэрліне 24—27 красавіка сёлета, надарылася й мне нагода адведаць першы раз пасьля вайны заходні Бэрлін, які сяньня зьяўляецца маленькім астраўком запраўднае свабоды сярод зрадлівага мора камуністычнага таталітарызму. Хаця ў заходні Бэрлін можна дастацца із Захаду звычайнымі сродкамі лякамоцыі — цягнікам або самаходам, аднак такім шляхам могуць ехаць толькі людзі, якім нічога ня можа пагражаць з боку саветаў, г. зн. звычайныя, зусім незаангажаваныя ў палітычнай дзейнасьці немцы або нямецкія камуністыя. Для нас-жа, уцекінераў з Усходу, такая дарога із зразумелых прычынаў зачыненая: паехаць туды можна, але вярнуцца адтуль нельга. Астаецца тады толькі дарога паветраная, якая рэспэктавалася бальшавікамі навет падчас бэрлінскае блякады.

### ГОРАД РУІНАЎ І КАЛЯСАЛЬНЫХ ЗЬНІШЧЭНЬНЯЎ

Ляцім такім чынам самалётам. Падыймаемся ў Мюнхэне а 12 гадзіне дня й за дзьве гадзіны зь нямногімі мінутамі прызямляемся на бэрлінскім лётнішчы Тэмпэльгоф. На лётнішчы бяру таксі й еду на месца Кангрэсу, які адбываецца ў памяшчэньні тэхнічнага ўнівэрсытэту на Шарлётэнбургу блізка ад чыгуначнай станцыі «Zoo». Пакольki Бэрлін мне добра знаёмы, які апошні раз пакінуў за месяц да капітуляцыі Нямеччыны вясной 1945 г., дык адразу, як і ўсе чатыры дні побыту ў ім, прыглядаюся да ўсіх дэталяў бэрлінскага жыцьця, асабліва зьвяртаючы ўвагу на два мамэнты: 1. параўноўваю цяперашні Бэрлін з Бэрлінам месяц перад капітуляцыяй і 2. параўноўваю сучаснае жыцьцё ізаляванага Бэрліна зь іншымі вялікімі гарадамі Заходняй Нямеччыны.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта калясальны разьмер ваенных зьнішчэньняў. Руіны, руіны й усюды руіны; іх без параўнаньня болей, чымсьці было 20 сакавіка 1945 г., калі я апошні раз пакідаў нямецкую сталіцу. Ёсьць цэлыя вуліцы, а навет кварталы, дзе ня знойдзем цэлага дому. Былі моцна зьнішчаныя такія, прыкладам, нямецкія гарады, як Мюнхэн або Франкфурт. Але сяньня ў гэтых гарадох руіны й разваліны ўжо подчышчаныя, мноства дамоў адбудавана й адрамантавана й далей адрамантоўваюцца, павырасталі новыя камяніцы й аб ваенных зьнішчэньнях напамінаюць толькі маленькія будачкі з дошчак або цэглы, якія павырасталі на месцы разбураных дамоў і ў якіх памяшчаюцца розныя крамы, магазыны, рэстараны.

Праўда, і ў Бэрліне шпаркімі тэмпамі вядзецца адбудова гораду й рамонт ня зусім зьнішчаных будынкаў. Навет падчас нашага побыту ў ім, 26 красавіка, была адкрытая выстаўка пад лёзунгам «Сталіца Бэрлін адбудоўваецца», якая паказвала дасюлешнія вынікі адбудовы, як і будаўляныя пляны й праекты на бліжэйшую будучыню. Але пакольki ў заходнянямецкіх гарадох мы на кажным кроку бачым новыя й новыя рыштаваньні, на якіх увіхаюцца работнікі пры акцыі адбудовы, патольки ў Бэрліне чамусьці гэтага не заўважаем. Там на столькі многа руінаў, што рыштаваньні й адноўленыя ўжо камяніцы проста губляюцца ў шчарбатых руінах шматпавярховых дамоў.

Гэтак выглядае заходні Бэрлін, які абыймае ўваснаўным новыя жыльлёвыя кварталы, мала прамысловыя й аддаленыя ад цэнтру, ды далёка на захад, поўдзень і поўнач тонучыя ў густой зелені прадмесьці. Абраз зьнішчэньняў у савецкім сэктары, які ўключае ў сябе цэнтральную часьць гораду й усходнія прамысловыя раёны, гавораць, яшчэ страшнейшы й жахлівейшы. Аб гэтым напасьледак сьветчыць і статыстыка насельніцтва. Савецкі сэктар, які абыймае найбольш густа заселеныя старыя кварталы й займае чуць не палавіну ўсей гарадзкой плошчы, мае на сяньняшні дзень 1,100.000 насельніцтва, а заходні Бэрлін — 2,750.000. Гэтыя лічбы найбольш вымоўна гавораць самі за сябе.

Другое, што таксама кідаецца адразу ў вочы, гэта тое, што Бэрлін сяньня ня робіць уражаньня вялікага гораду: усё тут міньятурнае, ціхае, спакойнае. Магазынаў, запоўненых рознымі таварамі, мноства. Можна купіць усё тое самае, што й на захадзе Нямеччыны, і па тых самых цэнах. Але бальшыня гэтых магазынаў памяшчаецца ў спэцыяльна для гэтага збудаваных на месцы разбураных камяніцаў будачках або ў старых уцалелых будынках, тарговыя памяшчэньні якіх былі празначаныя для дробных, пераважна спажывецкіх крамаў. Усё гэта зьяўляецца нясумерна дробным і міньятурным для вялізарнага гораду, трэйцяга, пасьля Лёндану й Парыжа, па вялічыні сваей у Эўропе. Тое самае датычыцца й вулічнага руху, які значна меншы й спакайнейшы, чымсьці навет не на галоўных вуліцах Мюнхэну ці Франкфурту. Такія гарадзкія магістралі, як «Kurfürstendamm», «Ost-West-Achse» або «Berliner Straße», можна спакойна перайсьці ў кажны мамэнт, не патрабуючы чакаць, пакуль засьвеціць чырвоны сыгнал і спыніцца рух самаходаў. Ізаляванасьць гэтай часьці Бэрліна ад заходняга сьвету ў вялізарнай меры прыглушыла й аслабіла бурлівы калісьці пульс жыцьця гэтага вялікага гораду.

### З АБОДВЫХ БАКОЎ МЯЖЫ МІЖ СЭКТАРАМІ

Так як Кангрэс адбываўся ў памяшчэньні тэхнічнага ўнівэрсытэту, яго абслугоўвалі нямецкія студэнты. Была нагода шмат аб чым зь імі пагаварыць, распытацца пра ўсё для нас цікавае. Таксама шматлікія нямецкія госьці на Кангрэсе ахвотна інфармавалі нас аб жыцьці як у заходнім, гэтак і ў усходнім сэктары сталіцы.

І так даведваемся, што ў савецкім сэктары гораду харчовыя прадукты яшчэ на картачкі, а зь іншымі таварамі першае патрэбы справа прадстаўляецца прыблізна так, як і ў Савецкім Саюзе: магазыны сьвецяць пусткамі, толькі час ад часу запаўняюцца некаторымі дэфіцытнымі таварамі. Тады перад кажным магазынам творыцца кілямэтровая чарга, у вадзін дзень магазын пусьцее й узноў сьвеціць пусткамі аж да наступнага папаўненьня.

Нас інфармуюць, што ў заходнім Бэрліне налічваецца да 300.000 безработных, што на 2,750.000 насельніцтва зьяўляецца колькасьцю нясумерна вялікай. Аднак камуністых сярод іх мала: магчымасьць непасрэднай абсэрвацыі, як камуністычная сыстэма выглядае на практыцы ў усходняй часьці гораду, робіць сваё. Тут камуністымі, і то сьлепа адданымі саветам, зьяўляюцца толькі тыя, да якіх ніякія аргумэнты не прамаўляюць: гэта або платныя бальшавіцкія агенты або бяскрытычныя фанатыкі.

Ды, напасьледак, — выясьняюць нам — безработныя заходняга сэктару жывуць шмат лепей, чымсьці працуючыя ў Бэрліне усходнім. Тут на захадзе безработны, як і ў заходняй Нямеччыне, атрымлівае з Арбайтсамту дапамогу для безработных на падставе сацыяльнага забясьпечаньня, якая сваей вартасьцю значна перавышае ўвесь заработак работніка ўсходняга сэктару. Гэта таму, што ўсходнянямецкая марка, за якую ён мог-бы купіць патрэбныя сабе тавары ў заходнім Бэрліне, раўняецца ўсяго толькі аднэй чацьвертай маркі заходнянямецкай.

### ТАМ, ДЗЕ НЯМА ЗЯЛЕЗНАЙ ЗАСЛОНЫ

Найцікавейшым аднак зьявішчам у Бэрліне зьяўляецца тое, што тут мы знаходзім адзінае ў сьвеце месца, дзе фактычна няма ніякае граніцы між заходнім сьветам дэмакратычным і ўсходнім камуністычным, дзе зялезная заслона, што шчыльна закрывае камуністычны сьвет ад крытычнага вока Захаду й наадварот, мае ў сабе шырокую шчэліну, праз якую людзі абодвых сьветаў могуць свабодна камунікавацца й узаемна сябе адведваць. Праўда, гэты кантакт для некаторых жыхароў заходняга Бэрліна часта канчаецца трагічна: чалавек можа пайсьці ці паехаць у ўсходні сэктар, але назад не вярнуцца. З напружанай цікавасьцю зьбліжаліся й мы да граніцы ўсходняга сэктару, які лёгка адрозьніць па вялікай колькасьці чырвоных сьцягоў і камуністычных плякатаў, але пераступіць граніцы, пэўне-ж, ніхто ня меў сьмеласьці. Праўда, здарыўся адзін выпадак, што некалькі журналістых праз памылку апынуліся ў усходнім сэктары й зайшлі на пошту, каб выслаць пісьмы. На сваё зьдзіўленьне ўнутры паштовага будынку заўважылі на сьцяне партрэт Сталіна й розныя камуністычныя плякаты. Нічым не зраджаючы свайго паходжаньня, як найхутчэй накіраваліся з затоеным дыханьнем на захад і толькі ўпэўніўшыся, што ўжо знаходзяцца ў заходнім сэктары, маглі аддыхнуць свабодна.

Магчымасьць свабоднага руху між заходнім і ўсходнім Бэрлінам мае свае практычныя плюсы й мінусы. Плюсы тыя, што, як было ўжо ўспомнена, насельніцтва заходняе часьці гораду мае магчымасьць пабачыць, што прадстаўляе зь сябе камунізм у запраўднасьці й раз назаўсёды вылячыцца ад усякіх хвальшывых аб ім уяўленьняў. Апрача гэтага, існуе лёгкая магчымасьць уцячы на захад тым немцам, якім надаела «народная дэмакрацыяя» ў савецкім выданьні або якім пагражае арышт і перасьледваньні. Дык-жа й карыстаюць з гэтае магчымасьці масава. Згодна афіцыяльнай статыстыкі ад 8 да 15 палітычных уцекачоў дзенна замэльдоўваецца ў заходнім Бэрліне. У бальшыні гэта тыя немцы, якіх змушаюць да супрацоўніцтва з МГБ, далей ідзе ўсходнянямецкая паліцыя, палітычныя й грамадзкія дзеячы, а таксама й шэрыя звычайныя нямецкія грамадзяне.

Да мінусаў належыць у першую чаргу тое, што жыць у заходнім Бэрліне ня зусім бясьпечна. Бываюць частыя выпадкі выкраданьня нявыгадных для бальшавікоў людзей. Звычайна гэта робіцца двумя спосабамі: чалавека ловяць на вуліцы, сілком уцягваюць у машыну й пакуль прыбудзе яму на помач заходняя паліцыя ці жаўнеры альянтаў, ён ужо апынецца ў усходнім сэктары. Апрача такога мэтаду хапаньня людзей, нямецкія камуністыя з усходняга Бэрліна нападаюць ноччу на памешканьне сваей ахвяры, хапаюць яе з ложка й адвозяць у ўсходні сэктар. Такімі спосабамі да гэтага часу схапілі адных толькі вядучых нямецкіх дзеячоў, як журналістых, палітыкаў, працаўнікоў грамадзкіх, 28 чалавек. З гэтае прычыны й у дачыненьні да нас, журналістых паняволеных народаў, былі прадпрынятыя ўсе крокі асьцярожнасьці. Чатыры гатэлі, у якіх начавалі ўдзельнікі Кангрэсу, мелі ахарону, зложаную зь некалькіх нямецкіх абмундзіраваных паліцыянтаў з сабакамі вонках дому й зь некалькіх тайных паліцыянтаў унутры.

Нямецкія камуністыя ўсходняга Бэрліна, зразумела на загад сваіх савецкіх апякуноў, часта арганізуюць розныя правакацыйныя акты. Гэтак і пры нас, 24 красавіка, 20.000 камсамольцаў з савецкага сэктару на даручэньне ЦК «СЕД» прабавала прарвацца ў заходні Бэрлін, каб там дэманстраваць супраць генэральнага дагавору Нямеччыны з заходнімі дзяржавамі. На граніцы сэктараў паўсталі схваткі, у выніку якіх з абодвых бакоў былі раненыя, а адзін заходнянямецкі паліцыянт быў схоплены дэманстрантамі й адведзены ў савецкі сэктар. Найчасьцей практыкаваным аружжам заходняй паліцыі, ужываным у падобных выпадках, ёсьць вадзяныя пажарныя шпрыцы й сьлёзныя бомбы.

### НАД САВЕЦКАЙ ЗОНАЙ НЯМЕЧЧЫНЫ

У панядзелак 28 красавіка часьць удзельнікаў Кангрэсу, у тым ліку й я пакідаем Бэрлін на пяты дзень побыту ў ім. Часьць мае адляцець назаўтрае.

У вялікім чатырохматорным самалёце францускай лініі «Air France», які мае 60 месцаў для пасажыраў, знаходзіцца аж 40 чалавек адных толькі ўдзельнікаў Кангрэсу. Калі самалёт падняўся й набраў разгону, пачынаюцца жарты, розныя алюзыі й заўвагі.

«Вось калі-б саветы змусілі прызямліцца на іхнай тэрыторыі наш самалёт, мелі-б вялікую нажыву: 40 'ворагаў народу', ды яшчэ не абы якіх — вядучых людзей, што сілаю слова вядуць бесьперапыннае знаганьне з камунізмам, дэмаскуюць перад Захадам усе ягоныя праступныя мэты», — зьвяртаюся да сваіх таварышаў падарожжа.

«Так, можна прызямліцца, прыкладам, у Дэсаў, а апынуцца на Калыме», — дадае другі.

«Такая эвэнтуальнасьць выключаецца», — апануе трэйці. «З гэтага паўстаўбы вялікі дыпляматычны скандал».

«Але такі скандал аплаціўся-б», — заўважвае нехта іншы. «Што-ж, была-б высланая пратэстацыйная нота, на якую савецкі ўрад адказаў-бы, што ён гэтых людзей мае права ня выпусьціць, бо гэта-ж яго ‚граждане', пры гэтым ‚ваенныя праступнікі'. На гэтым і кончыўся-б увесь ‚скандал', а праз месяц пра гэты выпадак усе на Захадзе й забыліся-б».

Заабсарбаваныя падобнымі гутаркамі, мы й не агледзіліся, як пераляцелі граніцу Баварыі й хутка маглі з вышыні 2.500 мэтраў абсэрваваць Нюрнбэрг, які ўва ўсей ягонай панараме можна было абняць адным позіркам. Значыцца, зрадлівая савецкая зона ўжо за намі.

Гэтыя нашыя засьцярогі аб магчымых савецкіх правакацыях, хоць і высказваныя жартам, як аказалася, былі абаснаванымі. Бо вось назаўтрае, 29 красавіка, пасажырскі самалёт тае-ж францускае лініі, які ляцеў з Бэрліна ў Франкфурт і ў якім бясспрэчна знаходзіліся таксама ўдзельнікі Кангрэсу, быў заатакаваны двумя савецкімі дызэльнымі зьнішчальнікамі, якія на працягу чатырох мінут яго абстрэльвалі з кулямётаў і бартовых гарматак. Дзякуючы прытомнасьці й халоднай крыві лётчыка, які як найхутчэй увёў самалёт у густыя хмары, кончылася яшчэ ня вельмі трагічна. Прадзюраўлены ў 80 месцах самалёт вярнуўся назад на бэрлінскае лётнішча, а тры цяжка раненыя нямецкія пасажыры былі адвезеныя ў бальніцу. Насоўваецца зусім абаснаванае падазрэньне, што гэты напад савецкіх зьнішчальнікаў і быў паляваньнем на ўдзельнікаў Кангрэсу.

**Ст.**

---

# Аўстралійскі сэктар Рады БНР

Дня 12 красавіка ў Сыднэі адбыўся другі зьезд Сэктару Рады БНР у Аўстраліі супольна зь іншымі грамадзкімі дзеячамі. Радныя, якія з прычыны чыгуначнага страйку не маглі прыбыць на зьезд, прыслалі свае прывітаньні й пажаданьні. У згоднай таварыскай атмасфэры разважаліся справы беларускія, як і пытаньні сусьветнае палітыкі. Усіх прысутных зьвярнуў увагу даклад праф. Нікана (Мэльбурн) аб міжнародным палажэньні й дзейнасьці Рады БНР. Пасьля справаздачы дасюлешняга прэзыдыюму аўстралійскага сэктару Рады БНР і ўпаўнаважанага Ўраду БНР, вывязалася рэчовая й ажыўленая дыскусія над кажным пунктам парадку дня. Нарады бесьперапынна цягнуліся доўгі час, ня гледзячы на тое, што бальшыня радных у гэты-ж дзень прыехала за сотні міль у Сыднэй. Абгаварваліся справы фінансавыя агульнага й мясцовага значэньня, справы нашых установаў, арганізацыяў і прэсы, справы арганізацыйныя мясцовага значэньня, справы дапамогі тым, што асталіся ў Нямеччыне, а таксама пытаньні каардынацыі беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Аўстраліі. Была зьвернутая належная ўвага на арганізацыю беларускіх праваслаўных прыходаў у Аўстраліі. Забіралі голас як радныя, гэтак і нярадныя, апошнія з дарадчым голасам.

Ува ўсіх закранутых справах былі вынесеныя канкрэтныя пастановы. Што датычыцца справы каардынацыі, пастаноўлена, што Сэктар Рады БНР у васобе свайго Прэзыдыюму павінен пераняць на сябе абавязкі арбітра й каардынатара дзейнасьці ўсіх нашых арганізацыяў у Аўстраліі.

На 1952 год выбраны Прэзыдыюм Сэктару ў наступным складзе: Др. П. Гайдзель — старшыня, праф. Нікан — заступнік старшыні, др. Я. Малецкі — сакратар, а кандыдатам на прадстаўніка Ўраду БНР запрапанавана сп. М. Скабея. Нельга пры гэтым ня выказаць падзякі сп. сп. Бакуновічам за памешканьне для нарадаў і багатае сьнеданьне й абед для прысутных.

**Я. Ч.**

---

# Правільная пастаноўка справы

Газэта «Українська Думка», што выходзіць у Лёндане, разважаючы пытаньне радыяперадачаў з Захаду для паняволеных народаў, у сваім нумары за 24 красавіка сёлета піша:

«Да паняволеных народаў павінны гаварыць прадстаўнікі паняволеных нарадаў, як прадстаўнікі сваіх бацькаўшчынаў, а ня ‚Голасу Амэрыкі'. Хай амэрыканцы самі гавараць цераз «Голас Амэрыкі» пра праблемы паняволеных нарадаў так, як яны іх разумеюць. Сябры й прадстаўнікі паняволеных Расеяю народаў ня могуць гаварыць цераз «Голас Амэрыкі» ў духу мамэнтальнай каньюнктуральнай палітыкі «стэйт дэпартаманту» і на даручэньне амэрыканцаў завастраць ці прытупляць астрыё слова ў залежнасьці ад какетаваньня між Крамлём і ЗША.

Такая палітыка для паняволеных народаў ня ёсьць сувэрэннай палітыкай. Так, як быў «Голас Вольнай Францыі», саюзьніка Захаду, так павінен быць «Голас Грузіі», «Голас Украіны», Беларусі, Казакіі, Славаччыны, Баўгарыі, Мадзяршчыны й г. п. А «Голас Амэрыкі» — хай будзе голасам Амэрыкі. Толькі тады можна паверыць, што ЗША ўзапраўды жадаюць свабоды паняволеным Расеяю народам, а помач іх ня будзе перадумоваю ўтраты сувэрэннасьці. Паняволеныя народы, што крываўяцца ў змаганьні з бальшавізмам, хочаць пачуць свой родны голас, голас сваіх прадстаўнікоў. Калі паняволеныя народы зьяўляюцца ўзапраўды партнэрам для Захаду, тады яны не патрабуюць выжабранай паўгадзіннай аўдыцыі, каб паплакаць цераз яе ці выгалошваць цэнзураваныя ў адзінанедзялімаўскім духу прамовы.

Паняволеныя народы мусяць падняць сувэрэнную вайну ў этэры, як раўнапраўны партнэр і саюзьнік Захаду супраць Расеі, супраць бальшавізму так, як гэта яны ў сваей сувэрэннай стратэгіі ўважаюць правільным і карысным для іх і цэлага сьвету».

Ці-ж можна яшчэ што-небудзь дадаць да гэтых разумных патрабаваньняў украінскай газэты?

---

# ШУКАЮЦЬ

**Братоў Язэпа й Аляксандра Отулецкіх,** народжаных у вёсцы Рудніkі Карэліцкага раёну Баранавіцкай акругі, падобна пражываючых у Нямеччыне — шукае сястра Аўгеня Галецкая.

Весткі на адрас Адміністрацыі «Бацькаўшчыны».

---

# Рэнэгат у япіскапскай мітры

Ужо прайшло больш году, як Астроўскі выдаў адозву, каб беларуская моладзь ішла на вайну ў Карэю й каб беларусы Аўстраліі прасілі япіскапа Апанаса ачоліць беларускую праваслаўную царкву. На першую адозву хіба не адклікнуўся й кульгавы сабака, бо на столькі была яна бессэнсоўная, а на другую адозву прыхільнікі Астроўскага ў Аўстраліі прабавалі адгукнуцца, але ім раптам заняло дух.

Справа выглядала гэтак: япіскап Апанас прыбыў у Аўстралію на запросіны расейскага япіскапа ў Сыднэі Фёдара. Было зладжана публічнае спатканьне ў ІВКА зь япіскапам Апанасам і многія думалі, што вось можа й запраўды ўдасца навярнуць япіскапа Апанаса да Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы й пагадзіць з архіяпіскапам Сяргеям — галавой БАПЦ, які таксама зьяўляецца ў Аўстраліі. Справа аднак хутка прыняла адваротны кірунак. Япіскап Апанас зь месца асьветчыў, што ён вызнае толькі Расейскую Зарубежную Царкву й што пры ёй стаяў і стаяць будзе. Ён дадаў на заканчэньне, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква можа паўстаць толькі тады, калі будзе беларуская дзяржава.

Аўдыенцыя скончылася. Ніхто не забраў голасу, усім было сорамна й крыўдна гутарыць з такім вырадным сынам Беларусі. Разыходзячыся, многія галасна высказвалі сваё абурэньне. І правільна зацеміў сп. Шкода: «Я не магу ўсяго так добра выразіць, але няўжо мы павінны чакаць аж свае дзяржавы, каб памаліцца ў сваей царкве?» Гэта сказаў просты чалавек, прыхільнік Астроўскага.

Інтэнцыі яп. Апанаса ясныя: вы, беларускія патрыёты, будуйце беларускую дзяржаву, а мы, япіскапы Расейскай Зарубежнай Царквы, прыйдзем да вас на гатовае. Сяньня япіскап Апанас ёсьць прадстаўніком Расейскай Зарубежнай Царквы ў Брысбэйне, «возглавляет» многія расейскія арганізацыі, выдае расейскі часапіс, у якім у бессаромны спосаб высьмейвае беларускі нацыянальны гэрб «Пагоню», Ярылаў Крыж і іншыя дарагія забыткі нашай слаўнай мінуўшчыні.

Дык вось якому пабратыму хацеў Астроўскі аддаць у духовую апеку сваіх аднадумнікаў!

**Я. Лаўрыновіч**

---

# ДЗЕ КОРАНЬ ЗЛА?

(Заканчэньне)

вышэйшай установе. Спробу ўзьняць дыскусыю ў гэтай справе ніхто не падтрымаў.

Непаважныя дачыненьні маем і да іншых установаў. Ня гледзячы на тое, што на месцы ёсьць свой сьвятар, — а навет калі-б яго й ня было, дык гэта ня было-б яшчэ дастатковай падставай да карыстаньня з услугаў расейскай царквы. Аднак калі генэральскі сын жаніўся, дык шлюб адбыўся ў расейскай царкве. «Грамадзянства» гэта зусім ня зьдзівіла, наадварот — усе прынялі ў гэтым чынны ўдзел бязь ніякіх засьцярогаў. Праўда, сп. А. не пайшоў дзеля гэтага ў царкву, але агранічыўся толькі быцьцём на прыняцьці, але як на асобу, якая часам, здавалася-б, мела быць ідэалёгам беларускага нацыяналізму, дык, на мой пагляд, трохі мала. Ужо ў гэтым годзе жаніўся спадар Р. із спадарыняй Р. Шлюб ізноў у расейскай царкве й узноў нікога гэта ня зьдзівіла. Заўтра, здаецца, той-жа самы сп. Р., як нованазначаны радны, будзе складаць прысягу...

Салідна адносіцца да сваіх абавязкаў якая можа пятая частка (г. зн. пятая частка інтэлігенцыі — Рэд.), але, ясна, выцягнуць ня можа, бо адпрацаваўшы свае гадзіны (у маім выпадку 9 з палавінай, а ўлічыўшы поўгадзіны абед — 10 гадзінаў), чуецца дастаткова зморанай.

Як будуць разьвівацца падзеі далей, цяжка сказаць, думаю, што ў вызначаным кірунку, калі ня зьменяцца вонкавыя абставіны або нутраны падыход да справы. На гэты раз хопіць. Магчыма, што справы выглядаюць інакш, але кажны бачыць пасвойму.

---

# Адказы рэдакцыі

**Сп. Б. Даніловічу ў ЗША:** Ува ўсіх чыста адміністрацыйных справах «Бацькаўшчыны» пішыце непасрэдна на афіцыйны адрас рэдакцыі нашае газэты.

**Амэрыканскаму Беларусу:** Ваш заклік, хоць і правільны, надрукаваны быць ня можа, бо справа складак на нацыянальныя справы (на «Фонд 25-га Сакавіка», «Беларускі Выдавецкі Фонд» і інш) ужо ня раз парушалася на балонах нашае прэсы.

**Сп. М. Мацукевічу ў Канадзе:** Ваш артыкул «Патрэба сьвятароў» у такой форме надрукаваны быць ня можа, бо ёсьць у ім месцы, якія беспатрэбна маглі-б распальваць рэлігійны антаганізм паміж беларусамі розных веравызнаньняў.

**Сп. М. Сярдзечэнку ў ЗША:** Ваш праект збору ахвяраў на Выдавецкі Фонд «Бацькаўшчыны» можам толькі прывітаць. Рэалізуйце яго такім спосабам, які ўважаеце за найбольш адпаведны.